Цана 30 мк.

Год I. Вільня, 1 кастрічэня, 1922 г. № 5.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Наваградзкай земляў.

Цана нумару 30 марак
Газэтка каштуе з паштоваю перасылкаю, ў месяц 150 марак.
Без паштовай перасылкі ў месяц 100 марак.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі Вільня, Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618.
Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г.

Абвесткі:
Цэлая старонка . . . . 10.000 мк.
1/2 старонкі . . . . . . 5.000 „
1/4 „ . . . . . . . 3.000 „
Дробныя абвесткі. . . на 100 „ за радок

Кіраўнік Рэдакцыі: ЛЮДЗЬВІК ХАМІНСКІ пасол Сойму. Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, Ф. Галавач, С. Бальгін, В. Шакун, Б. Ігнатовіч, Н. Жынь, Я. Драздовіч. М. Дварэцкі, А. Шапель.

## Ізноу крадуць нашу часопісь.

Як агнём пячэ скуру паноў і іхніх наймітаў кожнае наша слова праўды. Бялеюць ад страху іхнія „шляхотныя“ твары, бо бачаць пабедны ход вызваленьня сялянства і работнікаў. Бачаць, што не паможа ім агітацыя, грошы, пуга і вастрог!

Трэба не дапусьціць да мужыка гэту праклятую газэціну, якая вучыць яго змагацца, трэба разьбіць арганізацыю „Вызваленьня“!—гэтак крычаць паны ды ізноў пачалі красьці нашу часопісь, не дапускаючы яе да народу. Пачалі агітаваць і намаўляць пачтовых урадьнікаў, каб тыя памаглі ім у гэтай здрадзецкай рабоце. Відаць удалося ім перэцягнуць на свой бок некаторых урадьнікаў, бо мы ізноў атрымалі шмат пісьмаў, у якіх людзі жаляцца, што не атрымоўваюць нашу часопісь, што яна недзе прападае.

Папярэджаем гэтым несумленных урадьнікаў, што іхнія прозьвішчы будуць запісаны ў **чорным сьпіску**. Цяпер нічога вам зрабіць ня можам, але як выйграем на выбарах, дык памятайце! — пойдзеце тады шукаць працы да тых, каму цяпер служыце!

Вызваленцы! Вымагайце, каб вам выдавалі вашу часопісь! Запісвайце і далей прысылайце прозьвішчы тых урадьнікаў, якія крадуць нашу газэту.

А калі хто з вас можа, дык старайцеся атрымаць нашу газэту ў рэдакцыі або ў нашых сакрэтарыятах і вязеце яе да сябе на вёску. Вызваленцы! Ужо недалёка дзень пабеды. Гуртуйцеся пры арганізацыі!

---

## Новае ашуканства.

Ня сьпяць тыя, хто нічога для народу не зрабіўшы, хочуць на народных плячох улезьці ў Сойм пасламі.

У газэтах пішуць, што ў Баранавічах адбыўся зьезд, на якім утварылася новая быццам беспартыйная партыя пад назовай: Państwowe Zjednoczenie na Kresach. Хто ж гэта ўвайшоў у гэту кампанію ахвочых на пасольскае становішча?

Адзін каталіцкі біскуп (Лазінскі) адзін праваслаўны архірэй (Дыонісій), увесь „Звёнзэк Крэсовы“ (абшарнікі і старосты, каторыя душылі народ), вядомы Аляксюк, які за ўрадовыя грошы робіць быццам беларускую партыю, партыя Дзяржаўнй Уніі (Unja Państwowa), куды ўвайшлі толькі варшаўскія інтэлігенты, і... не паверыце! — партыя „Пяста“ Вітоса, якая ўжо стыдаецца у нас сваей назовы, бо столькі ўжо нашкодзіла тутэйшай людносьці, хочучы на нашай зямлі пасадзіць прыблудаў.

Уся гэта добрая хэўра ксяндзоў, паноў, абшарнікаў, старостаў, урадьнікаў Рачкевіча і пястоўцаў злучылася разам, каб ашукваць тутэйшае беларускае, польскае і украінскае сялянства. А каб трудней было дагадацца, хто хаваецца пад фірмай гэтага „ъедначеня“ ўцягнулі да сябе кучку тупалобых афіцэраў, якія калісь заслужыліся ў легіонах Пілсудскага, бо гэтая хэўра думае, што за пару пасольскіх мясцоў для гэтых афіцэраў ім удасцца ашукаць увесь народ, быццам гэтыя паны спачуваюць ідэі Начальніка Пілсудскага.

Народ ведае, хто такі Язэп Пілсудскі і за што яго любіць, дык гэтая ашуканская „крэсовая“ хэўра думае, што ей удасцца ашукаць народ, кажучы што гэтыя афіцэры быццам пасланцы Начальніка. Вось сорам і скандал! І за што толькі не хапаюцца людзі, якія забыліся аб дэмократызме і аб тым, што чэсны чэлавек заўсёды йдзе з адкрытым тварам, а не хаваецца за сьпіны ксяндзоў, паноў, Алексюкоў, старостаў і нячэсных „пястоўцаў!“

Народ спазнае гэтае ваша падвойнае ашуканства, дзеля таго нікога з вас на сваю бяду выбіраць у Сойм ня будзе.

тут.

---

# Вызваленцы!

Трэба напрагчы усе свае сілы, каб перэмагчы на выбарах! Трэба усё зрабіць, каб выйграць вялікую барацьбу з панамі, капіталістамі і спэкулянтамі! Ідуць яны да выбарау з мільонамі грошай, з тысячамі падкупных агітатарау, з маной, подкупам ды ашуканствам. Ім памагаюць блазчэсныя урадніхі і паліцыя.

А мы з чым ідзем на гэту барацьбу?

З чыстым сумленьнем, з верай, што наша справа сьвятая ды справядлівая!

Але гэтага мала! Трэба мець хаця трохі грошай! Трэба надрукаваць хаця крыху адозвау, картачкау з нашым нумэрам (3), трэба наняць кватэры для выбарных камітэтау. Усё гэта шмат каштуе.

А мы ня маем грошай. Ад нікога мы ня бралі Юдавых сярэбраннікау і ня возьмем! Наша партыя „Вызваленьне" павінна быць чыстай. Іншыя партыі маюць грошы, дзеля таго што або бяруць ад ураду, або спэкулююць зямлёй ды лесам, або бяруць ад жыдоускіх і нямецкіх купцоу ды капіталістау. Але за тое яны павінны будуць у Сойме галасаваць так, як загадаюць ім тыя, хто дау грошы. Нікто-ж за нішто дарма грошай не дае. Якія грошы—такая й палітыка

За гэтыя узятыя ад буржуяу або ад ураду грошы туманяць цяпер на вёсках вам вочы! За гэтыя грошы раздаюць вам дарма адозвы і газэты, за гэтыя грошы агітуюць вас нанятыя студэнты.

А мы павінны агітаваць самі і самі сабе даваць раду! Мы павінны самі змагацца з польскай, жыдоуской беларускай і расейскай рэакцыяй. Мы самі павінны здабыць сабе зямлю, асьвету і уладу. Самі абаронім для сябе нашу сялянскую праграму!

Іншыя партыі ня просяць у вас грошай, бо іх маюць!

А мы клічам: хай кожны, хто хоча шчасьця для сябе і сваіх дзяцей, дасьць ахвяру на выбарную барацьбу „Вызваленьня"! Хто колькі можа: 1000 мар., або 500, або навет 200. Няхай кожны селянін — вызваленец ахвяруе, колькі можа, а тады й мы будзем магчы надрукаваць нашы адозвы, нашы нумары, і мы будзем магчы заплаціць за білет на чыгунцы, каб прыехаць на сход і абараніцца перад брахнёй панскіх агітатарау! Дык не шкадуйма грошай на „Вызваленьне"!

Усе памагайце, дык зможам!

Хай кожны купіць нашу цэглачку, а калі яна яшчэ не дайшла да вас, дык хай вёска збярэ грошы і прышле нам па почце!

Вызваленцы за работу!

---

## Акружны зьезд у Лідзе.

24 верасьня адбыуся ў Лідзе акружны зьезд „Вызваленьня". На зьезд прыехала 3250 дэлегатаў з 4-х паветаў. Гэтакага зьезду ў Лідзе яшчэ ня бачылі. Як ішлі нашы дэлегаты з вакзалу праз вуліцы Ліды, з усіх вуліц выскачылі, як ваўкі, эндэкія і пястоўскія агітатары, упіхвалі дэлегатам свае адозвы ды газэціны і намаўлялі, каб яны ішлі да іх. Нішто не памагло. Работніцкі люд ішоў на свой зьезд „Вызваленьня" спакойна, горда, адганяючы з пагардай вон панскіх наймітаў. Іншыя партыі робяць сьпіскі сваіх кандыдатаў на паслоў у сакрэце, у сваіх кабінэтах, дзеля таго што баяцца, каб народ ня выбраў тых, хто яму да спадобы, а ня тых, хто ў час выбараў толькі агітуюць, каб зрабіцца паслом.

У нас — вызваленцаў — інакш. У нас сам народ прае сваіх дэлегатаў, выбіраў кандыдатаў на паслоў. Маглі выбраць кожнага, каго толькі захацеў зьезд. Дык Лідзскі зьезд выбраў тых, каго лічыў найлепшымі. Вызваленцы выбралі тутэйшых, вядомых людзей. Галасавалі над усімі кандыдатурамі: усе былі прыняты большасьцю галасоў.

Зьезд, якая панавала на зьездзе дакавае, што работніцкі люд ужо сарганізаваўся і ведае, што для яго карысна. Дык ужо паны пястоўцы, радзюкі ды іншыя ворагі „Вызваленьня" даведаліся, якіх паслоў хочуць дэлегаты. Дык цяпер будуць проціў іх агітаваць і выдумляць розную брахню. Ужо пішуць да нас вызваленцы, што розныя платныя агітатары езьдзяць па вёсках і ціхцам разсказваюць, што быццам адзін з іх бальшавіцкі камісар, а другі — гэта пераадзеты жандарскі афіцэр, трэйці — абакраў касьцёл у Менску і гэтаму падобнае. Глупства і брахня! Ніхто ўжо вам ня верыць! Сяляне-вызваленцы ведаюць, каго выбіраюць адкрыта і яўна, ня ціхцам, як гэта вы робіце, адкладаючы на апошні дзень выбары кандыдатаў.

---

**Браты! Памятайце, што нашы ворагі будуць аб нас—вызваленцах—брахню разводзіць і кідаць на нас розныя несправядлівыя закіды! Яны нічога ня могуць сказаць проці нашае праграмы, дык выдумляюць розныя глупствы на нашых людзей.**

**Трымаймося моцна нашага „Вызваленьня"!**

## Ахрана дробных арэндатарау.

Сойм пастанавіў прыняць ус таву аб працягу ахраны дробных арэндатараў да 1 лістапада 1928 г. На усім абшары „крэсаў" і Віленшчыны. Карыстаюцца гэтым правам арендатары да 40 десяцін у Віленшчыне, Навагрудчыне і Палесьсі ды ў паветах: Горадненскім, Ваўкавыскім і Белавежскім, а да 25 дзесяц на Валыні, але толькі тыя, хто арандуе ад 1 жніўня 1914 г.

Папраўка пасла Хамінскага таксама прайшла, дык значыцца пры аблічаньні гэтых 40 дзесяцін ня трэба рахаваць лясы, у якіх пасецца жывёла арэндатара, хаця-бы разам з гэтым лясным пасьбішчам было больш за 40 дзес. арэндаванай зямлі. Але папраўка пасла Понятоўскага з „Вызваленьня" датычна таго, што арэнду можна плаціць у судзе, не прайшла. Дык значыцца арэнду трэба плаціць да 1 кастрычніка па цане жыта ў жніўні за 6 пуд. з дзесяціны ворнай зямлі і сенажаці, а 30% гэтай самай сумы за десяціну выгана і некарменай зямлі. Гэтая абніжка, зробленая нашымі пасламі з „Вызваленьня", ў камісіі гэтак сама прайшла.

Гэткім чынам даваенныя арэндатары могуць быць супакойны яшчэ на адзін год. А праз гэты час новы Сойм павінен заняцца справай выкупу для іх. Дык усе галасуйце на „Вызваленьне" № 3.

**А. Хамінскі**
пасол.

---

**Хай сабе польскія, жыдоўскія або беларускія нацыяналісты влучаюцца або грызуцца між сабой—**

**Мы, беларускае, польскае і украінскае сялянства будзем змагацца разам у грамадзе!**

**Бо мэта наша адна: зямлі і улады, бо супольнага маем ворага: пана абшарніка і пана капіталіста.**

---

## Весткі з правінцыі.

**Брацлаўскі пан староста.**

З вёскі Занавацкэ - Гумно, Брацлаўскае вол., 14 верасьня забраў солтыс Гродзь разам з паліцэйскім 2 падводы ў гаспадароў: Юльяна і Міхала Хлебовічаў. Коні, заморэныя работай праз цэлюсенькі дзень, пагналі ў Староства і там навалілі на вазы рэчы нейкага латышскага афіцэра (8 скрыні ваеннага сукна, 1 скрыню з гарэлкай і 1 скрыню— як кажуць— шокаляды) ды пасадзілі яшчэ двох людзей, каб яны гэтыя рэчы пільнавалі. Калі Міхал Хлебовіч не захацеў ехаць на ноч з цяжкім возам, староста п. Мікуліч ударыў яго кулаком у грудзі і прымусіў завесьці рэчы ў Карасіна (непадалёк латышскай граніцы). Жарэбная кабыла Юльяна Хлебовіча пасьля гэтай цяжкай дарогі, па паламаных мастох, здохла на васпаленьне мазгоў (гэта сказаў вэтэрынар). Гэтая кабылка была адзінай падмогай у рабоце беднаму Юльяну Хлебовічу. Цікавасьць, што цяпер скажа на гэта пан староста Мікуліч, як ён вы круціцца, якім ён правам мучыць людзей і адбірае ў іх ядыную іхнюю падмогу ў гаспадарцы, а памагае рабіць нейкія цёмныя справы!

Аба ўсім гэтым можа яшчэ пасьведчыць і брацлаўскі солтыс грам. Хармач, якога староста пасадзіў у вастрог на 4 дні за тое, што ён не хацеў даць падводы, бо ведаў, што гэта вязуць рэчы латышскага афіцэра.

---

**Калі вам дадуць якійсь іншы нумар, а ня 3, дык вазьмеце ды спалеце яго, каб нехта абмыліўшыся ня укінуў яго на сваю згубу у выбарную скрынку.**

---

**Ізвоу паліцэйскі зьдзек.**

Кіраўнік паліцэйскага пастэрунку у Залесьсі, п. Дзежынскі, прыехаўшы пьяны ў вёску Загужэ, пачаў там расправу за кусок дроту, знойдзенага 16 верасня ў гаспадара Зайца. За гэта Зайца Тадора і Янку Хахолку білі, за гэта страшаць усю вёску, лаюць і праганяюць людзей з поля. Навет хвораму Альхіменцы не даюць супакою, а жонку Зайца давялі да хваробы, палохаючы, што яе заб'юць. Зьдзекуючыся над людзьмі п. Дзежынскі кажа: „вы нас душылі пры цары, за тое ж я вам цяпер задам!"

3

3

3

---

**Мікола Дварэцкі.**

# ЧАГО ТЫ СЬПІШ?

Чаго ты сьпіш дзень ноч спакойна,
Чаму да працы ты ня йдзеш?
Прачхніся, ўжо даволі спаці,
А то ты так навек засьнеш.

Трэба устаць, прачхнуца хутка;
Дый да работы ўміг сьпяшыць,
Прыйшла шчасьлівая мінутка,
Бо сонца ўжо ў вакно глядзіць.

Даволі сну і мараў страшных,
Якімі твой заблутан сон,
Няхай загінуць твае мары,
І адляціцца разам ён.

Цяпер ня час нам быць пакойным,
Цяпер ня час нам, браце, спаць,
Нам трэ рабіць, каб быць як вольным
Нам трэба сілу мацаваць,

Даволі сну было цяжкога,
Даволі спаў забыты край;
Цяпер трымацца трэ другога,
Цяпер крычаць трэба—„Уставай".

„Устань, народзе, на змаганьне
Ды пакажы сваіх байцоў,
Даволі зьдзеку, скуры драньня,
Ты паднімай братоў, айцоў!"

Ляпей ваюючы загінуць,
Навек заснуць пад курганом,
Чымся ніколі не павінуць
Пакорна кланчыць прад паном!;

Няужож п Дэжынскаму ня сорамна быць гэтакім подлым дурням і зьдзекавацца над нявіннымі людзьмі за тое, што рабіла царская ўлада.

**Як паны „нараджаюць“ даугалетнюю службу парабкаў — паведамляе аб гэтам нішэйнадрукаванае пісьмо.**

Падаю да ведама паважанай Рэдакцыі, што пан Лясковіч, які мае маёнтак Кір'яновцы (Лідскі пав.) выкідае мяне, Канстанта Банцэвіча ов службы, бо я ўжо перапрацаваўся ў працягу 12 гадоў службы ў яго, ня маю ужо даўнейшай сілы і маю скалечанныя рукі ў малатарні. Дык вось пан шукае прычыны, к б з раз мяне выкінуць, кажучы што я няшпарка бегаю і дрэнна працую. Пераканайцеся, браты парабкі, што абшарнік ня мае для нас літасьці. Жыве бяз сэрца, набівае сабе бруха працай парабка, а як высмактаў з яго ўсеньку сілу, калі ён, бедны перамучаны, не дае гетулькі карысьці, колькі маладым, дык пан дашукаецца прычыны, каб яго выкінуць.

**Заядлы ксёндз.**

З гэтых-жа самых Кір'яноўц ў паведамляюць нас:

6 жніўня прыехаў у нашу каплiцу ксёндз Балеслаў Спорскі. Скончыўшы імшу, не адыйшоўшы яшчэ ад аўтара заядлы ксёндз пачаў займацца палітыкай кідаючы грязь дыбалотам на левыя партыі ў Сойме. Выйшаўшы на смэнтар яшчэ не супакоіўся, заядла накідваючмся на Начальніка Дзяржавы і кажучы, што трэба яго прагнаць. А сідзячы ўжо на калёсах, казаў гаспадару, які яго вёз, што Язэпа Пілсудскага, Начальніка Дзяржавы, трэба павесіць.

Старанна выслугоўваючыеся эндэкам, ксёндз забыўся аб сваіх абавязках у службе Боскай, а яшчэ горш—забыўся аб пятай запаведзі: „не забівай“.

Солтыс грамады Сьцерп ва

**Фр. Сьвідэрскі.**

**Намаўляйце, каб вашы жонкі і мацi таксама галасавалі, бо кожны голас важны і патрэбны для перамогі!**

# Пісьмо у Рэдакцыю.

Шаноўная Рэдакцыя!

Прашу зьмясьціць у народнай газэтцы гэтае пісьмо.

20 жніўня арэндатар двара Чашчаўляны пад Горадням п Жукоўскі заняў з пожні каровы гаспадароў тае самае вёскі.

Калі ўласьнікі былда зьвярнуліся да яго з просьбаю, каб выпусьціў каровы з цеснага хлява, ў якім калечыліся, п. Жукоўскі дмовіў, жад ючы па 3000 марак за штуку. Не гэта гаспадары не згадзіліся, заяўляючы, што сэрвітутнае права пазваляе ім карыстацца пожняй. Давалі, ўрэшце, па 1500 мк. за штуку. У адказ на гэта два сыны пана Жукоўскага, азброеныя браўнінгам і дубальтоўкаю, далі некалькі стрэлаў і паранілі ў галаву аднаго з гаспадароў, Пранціпіка Сацэвіча. Сястра раненага, зараз-жа, ўзяўшы ад солтыса фурманку, паехала разам з раненым і намесьнікам солтыса да Гожы, каб там паведаміць аб здарэньні паліцыю.

Аднак пан Жукоўскі папярадзіў пакрыўджаных, паехаўшы да Горадна і справадзіў адтуль аддзел коннае паліцыі з 8 чалавек пад камандай вахмайстра Антановіча. Гэты аддзел панскіх паслугачоў, ня пытаючыся аб выясьненьні ні солтыса, ані гаспадароў, распачаў у вёсцы тэрор, б'ючы навет кабетаў і грамадзян суседняй вёскі. Разбэшчанасьць катаў дайшла да таго, што, едучы конна, цягнулі гаспадароў за валасы да двара, дзе арыштавалі іх і пагналі да Горадна, скуль выпусьцілі пасьля сьпісаньня пратаколу праз два дні. А п. Жукоўскі тады толькі вярнуў ім каровы.

Вось яскравы абраз шаленства й самаволі паноў ды паслугачоў іх паліцыянтаў.

Памятайце, браточкі, што калі дапусьцімся, каб большасьць паноў запанавала ў будучым Сойме, дык гэткіх выпадкаў будзе сотні. Сьцеражэмся гэтага і звяжайма, каб падчас выбараў падаваць галасы за прыяцялёў і абаронцаў народу, бо толькі тады ўцячэм ад панскага кулака.

**Якубоускі.**

Горадзен, 8 верасьня.

# Адказы ад Рэдакцыі.

**Да усіх нашых прыяцеляу і супрацоўнікау.**

Штодня мы атрымоўваем ад Вас больш за дванцаць пісьмаў і карэспандэнцыяў. Частка з іх прападае на почце.

Вельмі нас цешыць, што наша ч сопісь мае гэтакі вялізны ўсьпех, вельмі цешыць нас, што наша вызваленская сямейка расьце з кожным днём, што рэдакцыя ведае аба ўсіх крыўдах і несправядлівасьцях. Але мы хочам, каб нашы дарагія прыяцялі ня гневаліся за тое, што мы не друкуем усе вашы пісьмы. Наша газэціна маленькая, дзеля т го што мы ня маем грошы, каб друкаваць вялікшую. А каб надрукаваць усе вашы пісьмы, дык мы павінны былі-бы друкаваць газэту ў 4 разоў вялікшую. Дзеля гэтага мы друкуем толькі самыя важныя пісьмы, ў якіх пішацца аб справах агульных. Пасьля выбараў пастараемся выдаваць вялікшую часопісь, будзе яна цікавейшая і будзе пісаць аба ўсіх справах, якія цікаўны для народу.

Пакуль-што пішэце далей да нас, бо нам тады лягчэй працаваць і пісаць аба ўсім тым, што вас датычыцца.

Грам. Драздовічу Язэпу (пав. Дужілавічаўскі). Вашэ пісьмо атрымалі, але яно йшло на почце 18 дзён, відаць почта ісьнуе не для нас. Гэтакіх паноў Казоўскіх будзеце спатыкаць у часе выбарнай агітацыі штораз часьцей. Расплыліся яны цяпер па ўсей старонцы. Скуль яны маюць грошы — гэта хіба вам ведама.

Вызваленцам з Палачанскай воласьці, Ашмянскага пав. Пасольскі Клюб P. S. L. „Вызваленьня“ просіць паведаміць Вас, грамадзяне, што бяз подпісу вашу скаргу ня можна паслаць у ніякую установу. Мы ведаем, што напісанае Вамі праўда, бо гэтак сама дзеецца усюды, усюды пануе права дужэйшага, права (бязпраўе) нагайкі і стрэльбы. Дык няхай грам. І. Б. падпішацца сваім поўным прозьвішчам, а тады зробім, што трэба.

Жыхаром вёскі Казяны, Дзісьненскага пав. Вашу скаргу мы паслалі у пасольскі Клюб і да п. старосты дзісьненскага. Але не абяцуем, што вашы крыўды будуць спынены. Покуль урадуюць паны, покуль у розных установах сядзяць паны і іх найміты, покуль няма самаупраўленьня, покуль усюды пануе саботаж, навет найвялікшая крыўда народная можа прайсьці бязкарна. Як выйграем на выбарах, дык пабачыце, што ваш солтыс Пётра Александровіч і паліцэйскі Галубоўскі будуць падлізывацца. Тады яны будуць пакараны.

Рэдактар-Выдавец **С. Ваяводзкі.**

**Друк. Бэоўскага у Вільні.**